

## ТРЫЦЦАЦІПЯЦІГОДДЗЕ ЛІТАРАТУРНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ ЯНКІ КУПАЛЫ

### Дарагі Іван Дамінікавіч!

Чытачы і рэдакцыя журнала „Іскры Ільіча" горача вітаюць Вас, вялікага народнага песняра, у дзень трыццаціпяцігоддзя Вашай літаратурнай дзейнасці. Жадаем Вам доўгіх год шчаслівага жыцця і каб Вы напісалі для нас шмат цікавых вершаў!

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
СНЕЖАНЬ 1940 г. № 12

# ЮРАЧКА



*Янка Купала*



1

Ой ты, Юрачка,
Што не вучышся?
Так да невукаў
Ты далучышся.

А як вырасцеш
Ты няўмекаю,
Усе высмеюць
Недарэкаю..

А ў нашага Юрачкі
З'елі сала шчурачкі,
Як пабег ён у лясок,
Каб схавацца ад кніжок.

А ў нашага Юрачкі
У капоце дзюрачкі,
Нарабіў ён іх сабе,
Як стаў лазіць па вярбе.

2

Ой ты, Юрачка,
Што лянуешся,
Хаткі нашае
Не пільнуешся.

Толькі бегаеш,
Забаўляешся,
Гэтак з кпінамі
Напаткаешся.



*

А ў нашага Юрачкі
Пагублены гузічкі,—
Ён тады іх пагубляў,
Як з садочку уцякаў.
А з нашага Юрачкі
Сталі кпіць і курачкі,
Што не мыўся цэлы
дзень
І бубніць, як авадзень.



3

Ой ты, Юрачка,
Кінь ляніціся
Ды надумайся
Ты вучыціся.

Будзем цешыцца,
Што ты вучышся,
І да невукаў
Не далучышся.



*

А нашаму Юрачку
Кот зрабіў пячурачку,—
Юрка месца там заняў
І з катком—курняў!
курняў!

А нашаму Юрачку
Ткнуў камар у скурачку,
А Юрачка: „Ай-ай-ай!
Камарочак, не кусай!"













# ЯНКА КУПАЛА

А. КУЧАР

Рыс. К. Гедды

Увосень 1896 года ў Беларыцкую сельскую школу паступіў новы вучань Іван Луцэвіч. Бацька, адпраўляючы сына ў школу, наказаў слухацца настаўніка і добра вучыцца. Хлопчык паступіў у першы клас. Ён сеў за парту. Вывучалі літары. Нехта з выкліканых вучняў бэкаў і мэкаў, але не мог правільна назваць літару. Іван Луцэвіч сядзеў спакойна, толькі на вуснах у яго блукала ўсмешка.

«Дык вось якая яна навука»—думаў ён. Настаўнік падышоў да Янкі.

— А ты чаго ўсміхаешся, ты хіба ведаеш гэтую літару?

— Я і больш ведаю,—адказаў Янка.

— Хто-ж цябе так вучыў?

— Я сам вучыўся!

— Па якой-жа ты кніжцы вучыўся?

— Па календары.

— Што ты там вычытаў у календары?

— «Дозволено цензурою».

— Што-ж гэта такое «дозволено цензурою»?

— Не ведаю!

— Гэта чыноўнікі, што праглядалі каляндар, дазволілі яго друкаваць, таму і напісана «дозволено цензурою»,—растлумачыў настаўнік.—Дык ты хіба ідзі ў други клас,—сказаў настаўнік потым Янку.

К сярэдзіне зімы Янка ўжо быў у трэцім класе і вясной скончыў Беларыцкую пачатковую школу. Хлопчык чытаў многа кніг. У маёнтку, дзе бацька яго арандаваў невялікі кавалак зямлі, была багатая бібліятэка.

Янку вельмі хацелася вучыцца далей. Але бацька жыў бедна, трэба было працаваць на гаспадарцы, і ён не мог паслаць сына далей у навуку.

Працаваў Янка на гаспадарцы, араў, касіў, сек дровы. Праўда, гаспадар з яго быў кепскі. Ён больш займаўся кнігамі, чым гаспадаркай.

Хутка сям'ю Луцэвічаў спасцігла вялікае няшчасце: памёр бацька, а потым, у адзін тыдзень, малодшы брат і дзве сястры. Так цяжка сустрэў будучы паэт сваё юнацтва. Ён астаўся за гаспадара ў сям'і.

Жыццё сям'і станавілася ўсё цяжэйшым і цяжэйшым.

Апрыкрыла Івану Луцэвічу жыццё на чужой, арандаванай зямлі, тым больш, што паны праганялі з аднаго месца на другое. І Янка пайшоў шукаць сабе хлеба. Паступіў чорнарабочым у бровар.

Там працаваў па 12 і 15 гадзін у суткі ў пякельнай гарачыні. Ходзячы па ўсёй Беларусі ў пошуках заробку на кавалак хлеба, Іван Луцэвіч усюды бачыў змучаны і пакутны беларускі народ, які стагнаў пад прыгнётам цара, памешчыкаў і капіталістаў.

У хвіліны тугі і гора Янку хацелася на ўвесь свет крыкнуць аб тым, які змучаны край яго—Беларусь і як цяжка тут пакутуе народ.

«Але хто пачуе гэты крык?!»

«А што калі-б напісаць пра боль народа і надрукаваць у кніжцы? Каб многа людзей, прачытаўшы аб гэтым, уведала».

Ёсць адна фатаграфія. З яе глядзіць на нас адкрыты твар сялянскага юнака ў світцы і лапцях.

Відаць, у гэтай світцы і лапцях і з'явіўся Янка Луцэвіч увосень 1905 г. у рэдакцыю мінскай газеты «Северо-Западный край». Ён падаў да друку свой верш «Мужык». У рэдакцыі доўга аглядалі дзіў-

нага паэта, які піша на простай мужыцкай мове (так тады звалі паны і памешчыкі беларускую мову). І ўсё-ж парашылі верш надрукаваць.

У гэтым вершы быў крык набалелай душы паэта, крык аб лёсе селяніна:

І кожны, хто мяне спытае,
Пачуе толькі адзін крык:
Што хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць!—бо я мужык!

Верш быў падпісан выдуманым прозвішчам—Ян Купала. Гэта такое свята ёсць Івана Купалы, вось адгэтуль і ўзяў сабе прозвішча Іван Луцэвіч.

Далей Янка Купала пачаў друкаваць усё больш і больш твораў. І ўсё гэта былі творы аб тым, што ў хаце хлеба няма, што град пабіў збожжа і сялянскай сям'і давядзецца ў жабракі пайсці.

Няма хлеба, няма солі,
Чужому рабі;
Няма шчасця, няма долі,
Вось тут і жыві.

Але Купала не толькі скардзіўся на цяжкі лёс, ён заклікаў да змагання супроць цара і паноў. Вось што ён пісаў, звяртаючыся да іх:

Людской расплаты ўжо над вамі
Тапор адточаны завіс.

Вось гэты «адточаны тапор» і павінен быў знішчыць усіх мучыцеляў працоўнага народа.

Першую сваю кніжку Купала назваў «Жалейка». Гэта быў пачатак яго творчасці. Як голас жалейкі, на якой іграе пастушок сваю песню, гучэў верш Купалы.

Грай, мая жалейка,
Пей, як салавейка!
Апявай нядолю,
Апявай няволю,
І грымі свабодна,
Што жыве край родны!

Другая кніжка ўжо завецца «Гусляр». Гуслі граюць мацней за жалейку і іх больш чуваць.

Гэй, гусляр, гусляр!
Ты удар, удар
Па струнах-званах,
Дай нам з песень дар.
Дум вялікіх чар,
К сонцу зорны шлях,
Дай, гусляр, гусляр!



Купала палюбіў прыроду роднай яму Беларусі і ён напісаў аб ёй многа прыгожых вершаў. З маленства ён жыў на ўлонні ціхіх рэк, шумлівых гаёў і цвітучых лугоў. Яго чаравалі гукі жалейкі пастушка ў вясновую раніцу.

У тыя часы царскім урадам была забаронена беларуская мова, на ёй нельга было гаварыць і друкаваць кніжкі. Але людзі, якія любілі беларускае слова, сабралі па капейцы і выдалі кніжкі Купалы. Яны-ж дапамаглі Купале паехаць у Пецербург (цяпер Ленінград) вучыцца далей. Там Купала навучаўся некалькі год, помнячы словы ўласнага верша:

... Вучэнне паможа,
Змагацца з нядоляй, з няволяй...

Тым часам пра творы Купалы даведваецца вялікі пралетарскі пісьменнік Аляксей Максімавіч Горкі, які жыў у гэты час у Італіі. Горкі выпісваў беларускія часопісы. У іх ён і прачытаў вершы Купалы. Ён пераклаў адзін з іх «А хто там ідзе» на рускую мову і напісаў артыкул аб Купале. Купала стаў вядомым паэтам.

Купала да 1917 г. напісаў каля шасці вялікіх кніжак вершаў, у тым ліку выдатныя паэмы «Магіла льва», «Бандароўна», «Курган», «Адвечная песня», «Сон на кургане», п'есу «Раскіданае гняздо».

Толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі свабодна загучэлі песні Янкі Купалы. Савецкая ўлада,



партыя Леніна—Сталіна клапоціцца аб тым, каб творы Купалы чыталі ўсе народы нашай магутнай радзімы.

І іх чытаюць і спяваюць усюды: і на Украіне, і ў Грузіі, ва Ўзбекістане, Казахстане, па ўсёй нашай савецкай зямлі.

Усе вы, дзеці, ведаеце, мусіць, верш Янкі Купалы «Алеся» аб дзяўчыне, якая водзіць самалёты «над шчаслівай краінай, над роднай старонкай»...

Дык з гэтым вершам адбылася цікавая прыгода. Ён быў надрукаваны ў газеце «Правда». А «Правда» панесла гэты верш ва ўсе куткі нашай радзімы. Трапіў гэты верш і на Украіну. Там калгаснікі вывучылі яго, прыдумалі на словы верша песню ды спявалі. Спявалі яны доўга ці мала, але якраз у іх з'явілася дзяўчына—падобная на Алесю, таксама лётчыца, Ганусяя, дык яны пачалі гэту песню спяваць пра Ганусю. Прыехаў да іх вучоны чалавек і пытае: «Якія песні вы ведаеце?»—«А мы ведаем песню пра нашу Ганусю»—адказваюць яны. Запісаў ён тую песню і зноў яна трапіла ў Маскву ў «Правду». З «Правды» ў свет пайшла і ў «Правду» вярнулася!

А гэта-ж Купала так трапна паказаў Алесю, што знайшлася-б на савецкай зямлі не адна Ганусяя, жыццё якой падобна на Алесю. Вось за гэта народ і любіць Купалу. Таму яго называюць народным паэтам.

Многа піша Купала пра моладзь і асабліва пра савецкіх дзяцей.

Вельмі цікавай з'яўляецца песня пра «Хлопчыка і лётчыка».

Усе дзеці мараць аб тым, каб праляцець над незнаёмымі краямі і асабліва пабываць у Крэмлі:

І там з-пад нябеснае далі
Грымнуць громка ўсімі грудзьмі:
— Дзень добры, таварыш наш Сталін!
Паклон з самалёта прымі!

А памятаеце вы верш пра Галінку, якая пільнуе хату, калі бацька і маці панеслі свой голас за таварыша Сталіна. Вельмі цікавы верш!

Дасталося ад Янкі Купалы і гультаю Юрачку, які не хоча вучыцца.

* * *

Калі пайсці ад цэнтра Мінска па Окцябрскай вуліцы ўніз у бок Свіслачы, то вам сустрэнецца чырвоная брама, за агарожай у садзе стаіць дом. Тут і жыве Янка Купала.

Кожны дзень паштальён прыносіць на Окцябрскую вуліцу вялікую колькасць пісьмаў на імя Янкі Купалы.

Пішуць старыя знаёмыя з Заходняй Беларусі, якія ведалі Купалу яшчэ маладым паэтам, пішуць пачынаючыя пісьменнікі, просячы парады, пішуць выбаршчыкі Лідска-Слабодскай выбарчай акругі Баранавіцкай вобласці. Гэта яны абралі народнага паэта БССР Янку Купалу сваім дэпутатам у Вярхоўны Совет БССР.

Нельга забыць, з якой радасцю працоўныя сяляне Лідскага раёна, вызваленыя Чырвонай Арміяй разам з усёй Заходняй Беларуссю з-пад прыгнёту польскіх паноў, сустракаліся з Янкам Купалам у дні выбараў у Вярхоўны Совет.

На сходзе, на першай лаўцы сядзеў стары селянін, які разам з Купалам, што выступаў з чыткай сваіх твораў, паўтараў іх сам сабе. Стары селянін пачуў гэтыя вершы з вуснаў свайго аднавяскоўца трыццаць год таму назад і захаваў іх у сваёй памяці праз усе дваццаць год панскай няволі.

На грудзях у Янкі Купалы ззяе ордэн Леніна. Ён узнагароджан ім савецкім урадам за выдатныя заслугі ў мастацкай літаратуры.




# Вераб'ёвы госці

*З народнага. Апрацоўка* ***А. ЯКІМОВІЧА***

*Рыс. А. Сапетка*

Збудаваў верабей
На сметніку хатку.
Палажыў у дзвярах
Дубовую кладку.
Учыніў верабей
На прыпечку жніва,
Змалаціў, наварыў
Пшанічнага піва.
Як пачаў верабей
Ды гасцей склікаці,
Як пачаў верабей
Гасцей сустракаці:—
Едзе сам журавель,
А за ім карасцель,
Сіняя сініца—
Родная сястрыца,
Едзе і чачотка—
Вераб'ёва цётка,
Гусь з гусянятамі,
Качка з качанятамі
І сарока-белабока.
Рады, рады верабей—
Шмат наехала гасцей.



Чым-жа частаваці?
Узяліся госці
Абед гатаваці.
Журавель з чачоткай
Грэчку малацілі,
Курапатка з гускай
Да млына насілі.
Бусел меле,
Бусел меле,
А крук засыпае.
А сінічка-невялічка
Муку абірае.
Мукі з млына прынеслі,
Бліноў смачных напяклі.
Сталі есці, сталі піць,
Вераб'я сталі хваліць.
Тут музыкі як зайгралі—
Усе госці заскакалі,
Усе госці заспявалі:
„Дылі, дылі, гуль, гуль, гуль!
Дылі, дылі, буль, буль, буль!








**Мік. ЛУПСЯКОЎ**

Рыс. Эйдэльмана

У Колінай хаце развяліся пацукі. І да таго асмялелі яны—проста бяда. Чаравікі Коліны прагрызлі, мех з грэчневай крупой таксама прагрызлі. Прачнецца Коля сярод ночы, а пацукі ў кутках шуршаць: абоі ўжо на сценках грызуць. Страшна становіцца. Гэтак яны могуць і да Колі дабрацца, дарма, што на ложку ляжыць. Кажуць, што аднойчы пацукі чалавеку нос адгрызлі, калі той спаў. Баіцца Коля заплюшчыць вочы, варочаецца на ложку.

А за акном—сіняя ноч; відаць крыніцы далёка ў нізіне; у іх поўны месяц купаецца. І здаецца Колю, што месяц варушыцца, плыве да акна. Вось ён спыніўся ля самае шыбы, вясёлкаю зіхаціць. Усміхаецца хлопчык, а таго і не ведае, што ўсё гэта ўжо сон.

Грукнула ў куце—зноў прачынаецца Коля. Прыслухоўваецца. Усё шуршаць пацукі. Гэта яны, пэўна, і абярнулі нешта... І так кожную ноч.

Удзень на дварэ стаіць спёка нясцерпная. Зараз касавіца—самая гарачая пара лета. Усе калгаснікі на лузе працуюць. На лузе і бацька Колі. Дома маці толькі. Коля бегае да вяскоўцаў, ката просіць. Але хто-ж дасць гэтага ката, калі кожны баіцца, каб пацукі ў яго хаце не развяліся.

Аднаго разу з лугу прыехаў Колін бацька і прывёз... Каго-б вы думалі? Бацька Колі прывёз вожыка. Прынёс яго ў хату, паклаў на падлогу і сказаў:

— Вось вам стварэнне... Пацукоў ён будзе знішчаць не горш за ката.

А вожык:

— Чмых! Чмых!—і ў куток пабег.

Коля нават не павярыў бацьку. Але вожык яму так спадабаўся, што хлопчык збегаў на двор, адшукаў там невялікую скрыню і ўслаў яе дно саломкай. Атрымалася кватэра для вожыка. Скрыню Коля паставіў пад ложкам і паклаў туды калючага звярка. Але вожык—непаседа. Ужо праз поўгадзіны ён вылез з гэтае скрыні і пабег пад печ, нездаволена чмы-



хаючы,—могуць-жа і вожыкі быць нездаволенымі!

Ноччу якраз у тым куце, дзе пацукі любілі грызці абоі, чуўся бесперапынны піск і злоснае чмыханне вожыка. Там ішла жорсткая і ўпартая барацьба. Асмялелыя пацукі спачатку нават не спалохаліся вожыка. А вожык згарнуўся ў клубок, ды як пакоціцца проста на іх, ды як кальне самага вялікага пацука сваімі іголкамі, так той адразу і сканаў. Шуршаць абоі, драпаюць нечыя кіпцюры сцяну, чмыхае вожык—ідзе як-бы вайна. Коле вожык сваімі пікамі-іголкамі пацукоў, а яны бачаць, што моцны гэта вораг, разбягаюцца, хто куды...

З гэтай ночы пацукоў у хаце стала меней, а потым яны і зусім зніклі. Прызвычаіўся да хаты вожык. Удзень ён спаў у скрыні, ноччу выходзіў на паляванне. І многа можна было-б расказаць пра гэтага вожыка, што ловіць пацукоў... Аднойчы ён нейкім чынам заблытаўся ў Колінай шарсцянай панчосе, што ляжала пад ложкам і—да чаго цікава і смешна было яго выблытваць!.. Многа чаго можна было-б расказваць, ды неяк раз прапаў вожык. Ні днём, ні ноччу яго не ўбачылі...

І зноў завяліся ў хаце пацукі, і зноў прагрызлі яны мех з крупой, і новыя чаравікі Колі таксама прагрызлі. Шукаў хлопчык вожыка ўсюды: і пад печчу, і на печы, і за ложкам, і нават двор увесь перабраў: кадушкі, пляцёнкі—ва ўсё заглянуў. Няма вожыка. Няўжо загрызлі яго пацукі? Што-ж здарылася з ім такое? Міналі дні, а хлопчык не супакойваўся,—такі добры звярок, ды раптам, каб прапаў. А пакуль Коля заняты пошукамі, паглядзім, што-ж здарылася з вожыкам. Многа хто з чытачоў, пэўна, думае, што вожык уцёк з хаты куды-небудзь у лес. Але гэта зусім няпраўда. Вожык у хаце. Ён сядзіць за той вялікай бочкай з мукою, што стаіць у правым куце Колінага пакою. Аднойчы ноччу ён вышаў на паляванне, зашчаміўся між бочкай і сцяною, ды гэтак і павіс на сваіх іголках. Паспрабуе вожык уперад прабрацца—шчыліна дужа вузкая, назад—іголкі не пускаюць. Некалькі разоў хлопчык заглядаў у гэтую



бочку, але ці-ж здагадацца яму, што вожык непадалёк, зашчаміўся... Дык вось—міналі дні. Вожык усё худнеў і з кожным днём яму ўсё больш спаць хацелася. Тыдзень мінуў, як ён нічога не еў. А есці яму вельмі хацелася. Неўзабаве вожык заснуў цяжкім сном...

Праз чатырнаццаць дзён Коліна маці брала ў бочцы муку: ёй патрэбна было замясіць цеста на хлеб. Сагнулася яна, а грабушок і ўпаў з яе галавы за бочку. Прасунула маці руку, каб грабушок дастаць, ды як ускрыкне:

— Ой! Што-ж гэта колецца?

Прынеслі запалкі, пасвяцілі і тут вожыка ўгледзелі. Вынялі яго, паклалі на падлогу, а ён маленькі, зморшчаны і падобен на спечаную бульбіну, толькі што іголкі тырчаць.

— Ён нежывы,—ледзь не заплакаў Коля.

Але вожык раптам заварушыўся і... пабег.

Вечарам Коля спытаўся ў бацькі:

— Тата, чаму вожык жывым застаўся? Ён-жа два тыдні нічога не еў?

Бацька адказаў:

— А хіба ты не ведаеш, што на вожыку багата тлушчу? Гэтым тлушчам ён і жыў усе два тыдні.

— А які-ж ён смешны і хітры,—сказаў Коля.






Апавяданне А. ЯКІМОВІЧА

Рыс. Н. Кацмана

Звяно бамбардыроўшчыкаў, выканаўшы баявое заданне, варочалася на свой аэрадром.

Недалёка ад фронта машыны трапілі пад абстрэл зенітных батарэй. Зеніткі білі перакрыжаваным агнём справа і злева. Вакол самалётаў рваліся снарады, густа рассыпаючы асколкі.

Уступаць у бой звяно не магло: усе бомбы былі ўжо скінуты на раней вызначаныя цэлі. Таму камандзір звяна лейтэнант Дзянісаў узяў курс на зніжэнне. За ім знізіліся і астатнія самалёты звяна.

Машыны вышлі з-пад абстрэлу і нейкі час ляцелі амаль над самым лесам.

Апошнім вёў свой самалёт комсамолец Ігнат Ермаловіч.

Пралятаючы нізка над невялікім возерам, акружаным лясамі, Ермаловіч раптам убачыў чорную пляму, якая выразна вылучалася на белым іскрыстым пад сонцам снягу. Пілот падумаў, што гэта прытаілася групка залёгшых белафінаў: самалёты ўжо даляталі да фронта. Не разважаючы, ён навёў кулямёт на цэль і нырнуў уніз, каб нахаду расстраляць гэтую групку. Але неўзабаве ён ясна ўбачыў замест людзей складзены на яловых галінках вымпел *: «Спасите нас». Пілот глянуў наперад: звяно, вышаўшы з-пад абстрэлу, набірала вышыню. «Што рабіць?»—падумаў ён. Адстаць ад звяна без дазволу камандзіра? Ды і сесці на возера ў глыбокім снягу рызыкоўна. Але-ж, можа тут патрэбна неадкладная дапамога? Хто мог выкінуць такі вымпел?

Запамятаўшы месца з вымпелам, лётчык усё-ж парашыў даганяць звяно.

Затрымка Ермаловіча ў палёце была заўважана камандзірам. І калі ўсе самалёты прызямліліся на аэрадроме, камандзір падышоў да Ермаловіча.

— Што здарылася?—запытаўся ён у пілота, аглядаючы самалёт.—Машына няспраўна?

Хвалюючыся Ермаловіч расказаў камандзіру пра загадачны вымпел, які ён убачыў на возеры за лініяй фронта.

— Так што, таварыш лейтэнант, я нават хацеў на пасадку пайсці. Што рабіць?—з трывогай у голасе гаварыў Ермаловіч.

— Тое, што ты не пайшоў на пасадку,—правільна зрабіў. А што рабіць—рэч іншая,—адказаў камандзір.—А калі гэта правакацыя ** белафінаў? Ты-б знізіўся і трапіў-бы ў пастку... Рызыкаваць жыццём і самалётам не было патрэбы.



* Вымпел—слова галандскае. Азначае раздвоены на канцы сцяг, які падымаецца на мачце ваеннага карабля як умоўны знак. У даным выпадку азначае проста ўмоўны знак.

** Правакацыя—знарок, з умыслам зробленая подласць з боку ворага.

Камандзір паспешна падаўся ў штаб. У штабе згадзіліся з думкай камандзіра наконт магчымай правакацыі і далі заданне зараз-жа праверыць, хто патрабуе дапамогі.

Лейтэнант Дзянісаў паклікаў да сябе Ермаловіча.

— Ты запомніў месца з вымпелам?— запытаўся ён.—Зможаш патрапіць туды?

— Запомніў, таварыш лейтэнант. Добра запомніў і магу патрапіць,—упэўнена адказаў Ермаловіч.

Лейтэнант падаў яму цяжкі пакунак, перавязаны шпагатам.

— Даручаю табе зараз-жа завезці гэты пакунак і скінуць над вымпелам. Толькі без рызыкі: садзіцца катэгарычна забараняю!

* * *

На другі дзень лейтэнант Дзянісаў зноў паклікаў да сябе Ермаловіча і загадаў яму:

— Ляці, правер. У пакунку была запіска штаба: хто просіць дапамогі? Калі на снягу з'явіцца адказ на запіску і ён не выкліча ў цябе падазронасці, паспрабуй сесці і праверыць дакладна...

І Ермаловіч зноў у другі раз павёў самалёт да возера.

Пераляцеўшы фронт на значнай вышыні, пілот пачаў зніжацца. Пагода была не зусім ясная, і яму нейкі час не ўдавалася адшукаць знаёмае возера. Але вось у адным месцы цёмныя плямы лесу расступіліся. Пілот накіраваў самалёт на белую паляну, якая і аказалася знаёмым возерам. Замест старога вымпела Ермаловіч убачыў на сцягу новы: «Трое раненых N-скай часці». Сумненні пілота на момант развеяліся: усё падобна на праўду; N-ская часць сапраўды знаходзілася ў гэтым раёне. Але-ж—адкуль раненыя, калі часць стаіць кіламетраў за дзесяць ад возера? А тут-жа тыл ворага?

Аднак моцнае жаданне раскрыць таямніцу вымпелаў брала верх, і Ермаловіч парашыў рызыкнуць—павёў самалёт на спуск. Самалёт урэзаўся ў глыбокі снег і спыніўся каля самага вымпела. Ермаловіч не спяшаўся вылазіць з кабінкі. Ён спадзяваўся, што калі на возеры ворагі,— яны зараз-жа павінны будуць аказацца. Магчыма пачнуць страляць ці акружаць самалёт. Мінула хвіліна-другая,—на возеры было спакойна.

Ермаловіч вылез з кабінкі, аглядзеў возера, але нічога падазронага не заўважыў. Толькі адна пратаптаная сцежка вяла ад вымпела ў лес. Значыць, тут ёсць людзі. Ермаловіч пачаў уважліва ўглядацца ў бок лесу, адкуль вяла сцежка. Раптам на белым снягу каля самага лесу паказаліся два чалавекі. Яны паўзлі па сцежцы да вымпела. З снегу відаць былі толькі іхнія спіны.

«Так і ёсць,—падумаў Ермаловіч,—ворагі». Ён хутка вярнуўся ў кабіну. Але думкі пра дзіўны вымпел і пра дзіўных ворагаў, якія замест таго, каб страляць





у яго здалёк, падбіраюцца чамусьці к самалёту цішком, не давалі яму спакою. І перш чым пусціць самалёт, Ермаловіч яшчэ раз праз кабінку глянуў на паўзучых людзей. Людзі былі ўжо недалёка, і цяпер ён выразна ўбачыў на іх галовах чырвонаармейскія шлёмы з зорачкамі. Пілот выскачыў з кабінкі.

— Таварыш!—пачуў ён слабыя галасы паўзучых.

Ермаловіч бягом кінуўся па сцежцы насустрач клікаўшым яго чырвонаармейцам. Са слязамі радасці на вачах сустрэлі яны свайго збавіцеля.

— А дзе-ж трэці ваш таварыш?—на бягу запытаўся Ермаловіч.

— Там, у лесе,—апіраючыся на локаць, махнуў другою рукою адзін з чырвонаармейцаў.—Ён не можа паўзці... аслабеў. Выратуй яго, таварыш! А мы самі як-небудзь дапаўзем...—прагаварыў другі чырвонаармеец, ледзь варушачы пачарнелымі губамі.

І раненыя, завіхаючыся, з новымі сіламі папаўзлі далей да самалёта.

Ермаловіч хутка знайшоў на ўзлессі трэцяга раненага. Ён ляжаў у галлі, укручаны шынялём і глуха стагнаў. Ермаловіч узяў яго на плечы і хутка панёс па сцежцы. Чырвонаармеец быў цяжкі, і Ермаловіч хутка пачаў задыхацца. Але, не зважаючы на зморанасць, ён нёс раненага далей. І толькі ўжо каля самага самалёта адчуў ён, што не толькі бялізна, а і шынель прыліпла да яго ўспацелых плячэй.

Праз некалькі хвілін лётчык Ермаловіч вёз на свой аэрадром выратаваных ім трох чырвонаармейцаў.

---

У штабе Ермаловіч даведаўся ад раненых вось што. Тры дні таму назад камандзір часці паслаў іх у разведку ў тыл ворага. Заданне было выканана, і разведчыкі лясамі варочаліся назад у сваю часць. У дарозе яны сустрэлі групу белафінаў з шасці чалавек. Завязалася перастрэлка. Трое белафінаў было забіта, астатнія ўцяклі ўглыб лесу. Але ў гэтай перастрэлцы былі ранены ўсе тры разведчыкі: двaім кулі трапілі ў ногі, а трэцяму ў плячо. Страціўшы нямала крыві, яны аслабелі і не маглі дабрацца да часці. Прышлося чакаць смерці або выпадковага ратунку. Над галовамі разведчыкаў не раз пралялі нашы самалёты. Гэта і навяло іх на думку паспрабаваць шчасця і выкінуць вымпел на чыстым возеры. Нялёгка было ім зрабіць вымпел. Але надзея на ратунак перамагла ўсё. І вось гэтая надзея стала для іх зараз праўдай: яны выратаваны.





# ЧАЛАВЕК, МАЛПА, ЗМЯЯ, СЛОН І МУЛА

Закаўказская казка

*Рыс. А. Астаповіча*

Раз ішоў чалавек па дарозе і ўбачыў, што ў адну вялікую яму трапілі мула, слон, малпа і змяя.

— Добрая справа будзе,—сказаў сам сабе чалавек,—калі я выратую трапіўшага ў бяду.

Ён зняў з сябе вопратку, разарваў яе і зрабіў даўгую вяроўку, спусціў яе ў яму і крыкнуў муле, што хоча яго выцягнуць. Але малпа спрытна падскочыла, схапіла вяроўку і вылезла. Тады чалавек яшчэ раз сказаў:

— Эй, бярыся за вяроўку!

Але па вяроўцы скаўзанула змяя і хутка выбралася з ямы.

Чалавек зноў гучна сказаў:

— Бярыся за вяроўку, вылязай!

Але за яе ўхапіўся хобатам слон і вылез.

І ўсе—малпа, змяя і слон у адзін голас сказалі чалавеку:

— Ты мулу з ямы не выцягвай,—няма на цэлым свеце такога стварэння, каб у ім дрэннага было больш, чым у любым муле, а асабліва ў гэтым, што сядзіць у яме.

Але чалавек не паслухаў парады і зноў закрычаў:

— Эй, вылязай!

І на гэты раз мула вылез.

Усе разышліся ў розныя бакі.

Адыходзячы малпа сказала:

— Я жыву ў лесе каля горада Нудахарт. Калі будзеш у гэтым краі—наведай мяне.

— Я таксама там жыву,—сказаў слон,—мяне таксама наведай, калі будзеш блізка.

— І я жыву ў сцяне гэтага горада,—сказала змяя.—Заходзь!

— І я з Нудахарта,—сказаў мула,—калі будзеш у горадзе, не забудзь мяне, прыходзь—я ў даўгу перад табой.

— Памятай, што мы табе сказалі,—напомнілі малпа, слон і змяя.—Сцеражыся мулы.

І разышліся.

Прайшоў некаторы час. Чалавек прышоў у Нудахарт. Ідучы праз лес, ён успомніў пра малпу і гучна паклікаў яе.

З дрэва саскочыла малпа—другая—і сказала:

— Твой прыяцель перадае табе прывітанне і просіць пачакаць, яна зараз прыйдзе,—і ўцякла.





Чалавек сеў пад дрэвам у цені адпачываць. Хутка прышла малпа і прынесла многа смачных фруктаў.

— Ты змарыўся, адпачні, падмацуйся,— сказала малпа.

Чалавек пайшоў і лёг адпачываць, і пакуль ён спаў, яго прыяцель, седзячы на дрэве, ахоўваў яго спакой.

Потым яны развіталіся і чалавек пайшоў далей.

Калі ён сеў каля каменнай сцяны, што акружала горад, ён успомніў пра змяю і паклікаў яе.

З-пад камня, на якім сядзеў чалавек, выпаўзла змяя—другая—і сказала:

— Пачакай, зараз я яе паклічу.—І хутка знікла.

Неўзабаве з'явілася змяя, трымаючы ў роце каштоўныя каралі.

— Добры дзень!—сказала яна.—Вось табе мой падарунак у знак дружбы. Але ты змарыўся. Кладзіся, адпачні, а я павартую.

Чалавек схаваў каралі за пазуху і лёг на траву, галавой на камень, і заснуў. І змяя вартавала яго сон.

Затым яны развіталіся і чалавек увайшоў у горад. І не было яму дзе начаваць. У караван-сарай ён не хацеў ісці,—баяўся, што ўкрадуць каштоўныя каралі, ды і грошай у яго было мала. І ўспомніў ён пра мулу. І пайшоў да яго. Мула сустрэў яго вельмі ветліва, але папрасіў прабачэння, што не можа нічым пачаставаць— усё з'елі за вячэрай, а жонка пайшла да





суседзяў і ён не ведае, дзе ключы ад кладоўкі.

— Гэта не важна,—сказаў чалавек і ўсміхнуўся.—Калі ў цябе няма, я магу цябе пачаставаць,—і дастаў некалькі застаўшыхся пладоў з тых, што яму прынесла малпа.—Давай падмацуемся тым, што ёсць.

Мула падзякаваў і ахвотна далучыўся да чужой вячэры.

Пасля вячэры чалавек дастаў каштоўныя каралі і паказаў іх муле.

— Вось што ў мяне ёсць, дарагі прыяцель. Заўтра я хачу гэтыя каралі прадаць, каб не жыць больш у беднасці— хачу мець ежу кожны дзень.

У мулы загарэліся вочы. Ён пазнаў каралі, якія насіла дачка цара і якія яна ўпусціла ў глыбокае возера. Гэтым каралям не было цаны. Кожны камень каштаваў даражэй палаца з усім, што ў палацы знаходзіцца.

— Добра,—ветліва сказаў мула,—я табе ў гэтым дапамагу. Кладзіся спаць, ты змарыўся з дарогі, а я схаджу да знаёмых

купцоў у караван-сарай і даведаюся пра цану на каштоўныя камні, каб не прадзешавіць.

— Дзякую, прыяцель,—сказаў чалавек і спакойна лёг спаць.

Калі чалавек заснуў, мула асцярожна выцягнуў у яго з-за пазухі каралі і пабег да начальніка царскай варты.

— Вядзі мяне да цара,—сказаў ён важна.

Начальнік варты здзівіўся, але павёў.

Мула, убачыўшы цара, паваліўся на калені і, узняўшы вочы і рукі к небу, нараспеў сказаў:

— Няхай будзеш ты непераможны і шчаслівы, уладар уладароў. Вось я, чарвяк, ля ног тваіх. Выслухай мяне недастойнага.

І расказаў цару, што ў яго ў доме спіць разбойнік, у якога ён—мула—знайшоў каштоўныя каралі царскай дачкі.

— Вось яны,—працягнуў мула ўкрадзеныя каралі і яны засвіціліся так, быццам у залу ўнеслі тысячу свечак.

Цар адразу пазнаў свой падарунак.

— Уладар уладароў,—прыніжана кланяўся мула,—не забудзь мяне, ўзнагародзь па сваёй шчодрасці за тое, што я вярнуў табе любімае ўпрыгожанне дачкі.

Цар узяў каралі, кінуў муле прыгаршню залатых манет, адштурхнуў яго нагой і сказаў начальніку варты:

— Прывядзі таго, хто спіць у мулы.

Начальнік варты пакланіўся і пайшоў выконваць загад.

Калі чалавека прывялі да цара, ён убачыў каля трона мулу, плюнуў і сказаў:

— Праўду гаварылі мне прыяцелі,— кожны мула вораг чалавеку, а гэты асабліва.



І плюнуў яшчэ раз.

Цар раззлаваўся і закрычаў:

— Калі не скажаш, адкуль дастаў каралі,—смерць твая будзе доўгай і пакутнай.

Чалавек маўчаў.

Тры разы пытаўся цар, а чалавек маўчаў. Тады цар махнуў рукой і пайшоў. А начальнік варты загадаў раздзець чалавека, абмазаць яго мёдам і прывязаць у лесе да дрэва каля мурашніка.

Калі ўсё гэта зрабілі і першая мурашка, пачуўшы мёд, укусіла, чалавек ускрыкнуў так моцна, што яго пачуў слон. Задрыжэла зямля, заварушыліся кусты і дрэвы. Прымчаўся слон, патаптаў варту, начальніка запароў клыкам, а чалавека вызваліў, пасадзіў да сябе на шыю і ўцёк у лес.

— Не гаварылі мы табе, што ўсякі мула—вораг чалавека, а той у яме—асабліва?!

— Ваша праўда,—сказаў чалавек,—цяпер я гэта бачу.

І пачалі слон і чалавек дружыць і працаваць разам.







# ЗЕМЛЕТРАСЕННІ

Д. АРМАНД

## МЕСІНА.

Востраў Сіцылія аддзелен ад Італіі вузкім пралівам. На яго беразе стаіць горад Месіна. У 1908 годзе ён быў разбуран страшным землетрасеннем. У той час у Італіі жыў Алексей Максімавіч Горкі. Ён заўсёды горача адклікаўся на людскія пакуты. І ў гэты раз ён напісаў кнігу аб месінскім землетрасенні, а грошы, атрыманыя за яе, аддаў у карысць пацярпеўшых. Вось што адбылося ў Месіне па расказах Горкага.

Усю ноч перад катастрофай выў вецер, мора раз'юшана кідала на берагі высокія хвалі; ратуючыся ад холаду, жыхары Месіны закрывалі дзверы і вокны. Яны спалі моцным прадранішнім сном.

У 5 гадзін 20 мінут зямля ўздрыгнула; першы штуршок цягнуўся амаль дзесяць секунд; трэск і скрып аконных рам, звон шыб, грукат падаючых лесніц разбудзіў спаўшых; людзі ўскочылі, адчуваючы ўсім целам гэтыя падземныя штуршкі, ад якіх траціш прытомнасць, напаўняючыся дзікім страхам.



Месіна да землетрасення. У далечыні відаць бераг Італіі.

Яны кідаліся па пакоях, жадаючы запаліць агонь і збіраючы дзяцей і жанчын, а вакол хісталіся сцены, падалі полкі, карціны, люстры, выгіналася падлога, перакульваліся шафы,—усё пагражала смерцю. Як папяровая, разрывалася столь, сыпаўся тынк—усюды трэск дрэва, плач дзяцей, ляманты страху, стогны болю,—людзі бегалі ў цемры, штурхаючы адзін другога і не знаходзячы выхаду з гэтай буры.

Перакошаныя дзверы немагчыма было адчыніць. Калі людзі вырываліся ў карыдоры, іх сустракала хмара вапны і асляпляла. У цемры ўсё хісталася, падала, праваьваючыся ў нейкія раптам адкрыўшыяся бяздонні. Звар'яцеўшыя людзі, хапаючы на рукі дзяцей, з крыкам кідаліся ўніз, ламаючы сабе косці, поўзалі па грудах абломкаў, паліваючы кроўю камні і смецце.

Зямля гудзела, стагнала, горбілася пад нагамі і хвалявалася, утвараючы глыбокія трэшчыны, як быццам у глыбіні прачнуўся і варочаецца велізарны чарвяк.

Лопнулі трубы вадаправода, з трэшчын

зямлі выryваліся фантаны, шыпучы і апырскваючы раздзетых людзей халоднай вадой.

Хто меў сілы ўстаяць на нагах або паўзці, рухаліся далей, на бераг мора, на пляцы горада, блытаючыся ў дротах тэлефона. А ў грудах смецця ўжо бліскалі тонкія жоўтыя языкі агню,—гэта загарэлася сухое дрэва балак, сталі, мэбля, дзверы. Дым быў густы і едкі. Вось зноў узрыў, над зямлёй успыхнуў слуп полымя—узарваўся газ, і яшчэ не ўпаўшыя дамы павольна рассыпаліся ад сутрасення паветра.

На пляцах ціснуліся групы людзей: пакалечаныя, дрыжучы ад страху, амаль голыя. У многіх усе блізкія загінулі...

У гэты час паднялася хваля вышыні невымернай, закрыла грудзьмі палавіну неба і, качаючы белым хрыбтом, перааламілася, упала на бераг і страшным цяжарам сваім пакрыла трупы, будынкі, абломкі, расціснула, задушыла жывых і, не ўтрымаўшыся на беразе, хлынула назад, цягнучы за сабой усё схвачанае.

Месіна і мноства навакольных гарадоў і вёсак былі разбураны дашчэнту. На працягу некалькіх мінут загінула каля ста тысяч чалавек. Вуліцы Месіны патрэскаліся. Па зямлі прабеглі хвалі. Яны сагнулі ў складкі вязізныя пліты лавы, якімі былі выкладзены вуліцы.

Горкі апісвае многа дзіўных выпадкаў выратавання засыпаных людзей, асабліва дзяцей.

Адзін пажарны адкапаў пяцігадовага хлопчыка, які чатырнацаць дзён прасядзеў у засыпаным пакоі і ўсё-такі застаўся жывы.

А вось другі выпадак, расказаны адным салдатам:

«Наш атрад ішоў на раскопкі. Ішлі і крычалі: «Адгукніцеся! Хто тут жывы, эй!» Раптам чуем з развалін тоненькі галасок: «Марыя! Марыя!» Пачалі капаць—і раптам бачым: з маленькай адтуліны лезе папугай, увесь у вапне, растрапаны, напалоханы. Спачатку мы разрагаталіся нават. Але потым зразумелі, што калі папугай крычаў «Марыя», значыцца, там яна! Пачалі капаць далей і адкапалі маленькую дзяўчынку; яе-то і завуць Марыя.



Вуліца ў Месіне пасля землетрасення.

Пытаемся ў яе: «Ёсць там яшчэ хто-небудзь?»—«Так, са мной былі браты. Яны ўсё размаўлялі, але цяпер замоўклі». Пачалі капаць яшчэ і адкапалі двух хлопчыкаў. Так попка і выратаваў тры чалавечыя душы».

Першымі на дапамогу Месіне прышлі рускія ваенныя караблі, якія плавалі непадалёку. Матросы горача ўзяліся за выратаванне няшчасных людзей. Італьянцы здзіўляліся іх смеласці і лоўкасці, сустракалі з захапленнем і называлі сваімі збавіцелямі. Вось адзін з іх подвігаў:

«На астатку балкона, зачапіўшыся кашулькай за рашотку, вісіць дзяўчынка. Палавіна яе цела на абломках, а галава і грудзі ў паветры. Дзяўчынка маўчыць і глядзіць уніз. Зняць яе амаль немагчыма: абломак сцяны ледзь трымаецца, дастаткова штуршка лесніцы, прыстаўленай да яе,—і сцяна рухне і дзіця загіне.

Матросы дзейнічаюць нібы акрабаты: яны ставяць лесніцу, не датыкаючыся ёю сцен, на вяршыню яе ўлязаюць двое, адзін садзіцца верхам на другога, выцягвае сваё цела і знімае дзяўчынку. Гэта было зроблена так лоўка, што сярод стогнаў болю пачуўся нястрыманы крык перамогі і радасці».

* *
*

Адчаго-ж адбываюцца землетрасенні? Адкуль бярэцца сіла, якая мне каменні, разрываючы зямлю, падкідвае дамы? Не чарвяк-жа, сапраўды, варочаецца пад зямлёй?

Яшчэ ў 1563 годзе на гэтыя пытанні







амаль правільна адказаў французскі ганчар Палісі. Ён столькі часу шукаў у зямлі лепшую гліну для вырабу пасуды, што зрабіўся адным з самых ведаючых геолагаў свайго веку.

«Агонь увесь час падтрымліваецца пад зямлёй,—пісаў Палісі.—Часам камні і металы, што ляжаць у аснове зямлі, згараюць. Такая гара нахіляецца і асядае. Бывае і так, што горы ўзнікаюць і растуць дзякуючы павелічэнню камней, з якіх яны складаюцца».

Мы ведаем, што не агонь, а магма абмывае знутры зямную кару. Яна не спальвае, а расплаўляе камні. Але, усё роўна, зямная кара можа ад гэтага асесці, прагнуцца.

Трудней зразумець, як гэта камні могуць павялічвацца, расці. Справа ў тым, што камні складаюцца з крышталікаў— вуглаватых кавалачкаў з гладкімі, плоскімі бакамі. Сярод самых звычайных вяшчэстваў, вядомых кожнаму, можна знайсці нямала крышталаў. З іх складаюцца кухонная соль, медны купарос, борная кіслата, урэшце снег. Сняжынкі— гэта крышталы вады. У камнях рэдка можна разглядзець крышталы простым вокам, яны надта дробныя, але ў мікраскоп яны відаць ясна.



Трэшчыны, якія ўтварыліся пасля землетрасення ў Іспаніі.

У зямлі крышталы страшэнна сціснуты і прыдаўлены верхнімі слаямі. Але калі сіла ціску або тэмпература мяняюцца або вада пранікае ў глыбокія слаі зямлі, з крышталамі пачынаюць адбывацца цудоўныя змяненні. Яны мяняюць сваю форму, колер, размяшчэнне. Пры гэтым іх аб'ём можа павялічыцца. Тады яны з надзвычайнай сілай выпіраюць ляжачыя вышэй пласты і могуць нават прыпаднясць горы, што ўзвышаюцца над імі.

Ліст жалеза можна сагнуць удвая, але калі паспрабаваць гнуць шкло—яно лопне. Зямная кара ў некаторых месцах гнуткая, як жалезны ліст; пад ціскам падземных сіл яна гнецца павольна і паступова. Але затое ў іншых месцах яна крохкая як шкло, і, не вытрымаўшы ціску, лопаецца.

Вось гэтыя разрывы зямной кары і выклікаюць землетрасенні. На паверхні зямлі, як на разбітым шкле, з'яўляюцца трэшчыны. Часам яны цягнуцца на дзесяткі кілометраў і бываюць такія шырокія, што паглынаюць людзей, жывёлу і цэлыя дамы.

Раней думалі, што землетрасенні здараюцца ў пэўную пару года або праз роўныя прамежкі часу. Прабавалі знайсці сувязь паміж імі і палажэннем луны на небе або з'яўленнем плям на сонцы. Але з гэтага нічога не вышла. Затое заўважылі, што землетрасенні часта адбываюцца пасля рэзкіх змяненняў надвор'я, напрыклад пасля навальніцы або ўрагана. Магчыма, што з часам вучоныя, якія ўмеюць прадсказваць надвор'е, змогуць прадсказваць і землетрасенне.

Апрача выгібаў і зломаў зямной кары, невялікія землетрасенні могуць быць выкліканы вывяржэннямі вулканаў і абваламі ў падземных пячорах.

# АДАМ МІЦКЕВІЧ



Адам Міцкевіч—вялікі польскі паэт мінулага стагоддзя. Нарадзіўся ён у 1798 г. у беларускім горадзе Навагрудку. Дзіцячыя годы Міцкевіча прайшлі ў родным горадзе і яго ваколіцах. Тут ён наглядаў беларускую прыроду, слухаў народныя беларускія песні, казкі і легенды. Многія з гэтых казак і песень А. Міцкевіч выкарыстаў у сваіх выдатных паэтычных творах.

А. Міцкевіч быў сучаснікам і другам вялікага рускага паэта А. С. Пушкіна. Як і Пушкін, Адам Міцкевіч любіў свабоду і ненавідзеў царызм. Польшча, Беларусь, Літва і дзесяткі іншых краін былі заняволены ў той час рускімі царамі. Вялікі паэт А. Міцкевіч актыўна выступаў за незалежнасць польскага народа.

А. Міцкевіч напісаў многа выдатных твораў. Лепшыя яго паэмы «Дзяды», «Канрад Валенрод» і «Пан Тадэуш» вядомы чытачам усяго свету.

Памёр А. Міцкевіч 26 лістапада 1855 г.

## МУЖЫК І ВУЖАКА

(Байка)

А. Міцкевіч

Раз неяк зімовай парой
Мужык сеч брвенне пайшоў,
І ў лесе пад елкай гнілой
Вужаку чуць з духам знайшоў.

Ён з добрага сэрца ў мароз,
Як толькі вужаку сустрэў,
Узяў і дахаты прынёс,
На печы ў цяпле адагрэў.

Адхухала гадзіну печ,
Кусацца паўзе к мужыку;
Але той давай яе сеч,
Схапіўшы тапор у руку,

Насмерць ён гадзюку засек,
Шпурнуў, дзе больш снегу мяло,
І згінула ў снезе навек,
Навек за няўдзячнасць і зло.

Навуку тут маем у тым,
Ёсць прыклад такі для людзей:
Што хто за дабро плаціць злом,—
Як гадзіна, сам прападзе.

*Пераклад Я. Купалы.*





Рэдактар А. БЯРОЗКІН | Афармленне М. СВЯЦКАГА | Адрас рэдакцыі: МІНСК, Дом Друку.
Друкарня імя Сталіна. Мінск. | 20.000 экз. | Зак. № 2985. | 2½ друк. арк. | АТ 11480.

Цана 30 кап.



# Вышаў Янка на гулянку

А. Бялевіч

Рыс. М. Карпенка



Заляйцаў сабаку Янка, ажно любата.
А ён цягне, рвецца к тыну, брэша на ката.



Кот на тыне выгнуў спіну, наталырыў вус.
Нават Жучак адступіўся, як апошні трус.



Учапіўся ў хвост каціны лоўка наш Янук:
— Коцік, біся ці не біся—не ўцячэш ты з рук!



І ката пускае Янка:—мчыся у прастор.
А за ім нясецца Жучак ва увесь апор.



Кот са снегу, і з разбегу—прыг і сеў на сук.
А з разгону лбом аб дрэва стукнуўся Янук.



Лыжы—ў шчэпкі. Нос разбіты. У крыві Жучок.
Ледзь наш Янка з той гулянкі ногі ўвалок.

**ВОЖЫК** з восені выбірае сабе ў густых зарасніках, сярод кустоў, утульны куточак і робіць там логава. Зімовая хата вожыка— гэта вялікая куча саломы ці сена, лісця, моху.



Ус… вожык зносіць на сваіх іголках. Ён ка…цца па тоўстаму пласту апаўшых … дрэў лісцяў, лісця наколваюцца на яго іголкі, і вожык носіць іх у сваё логава.

Наступаюць першыя марозы, вожык за…а глыбока ў сваё логава. Скруціўшыся ў клубок, ён спіць тут усю галодную і халодную для яго зіму, пакуль не разбудзіць цёплае вясенняе сонейка.

**ЛІСІЦА** зімою спіць у сваім гняздзе толькі раніцаю, а ўдзень і ўночы шукае сабе спажывы.

**ВАЎКІ**, дык праз усю зіму шукаюць сабе здабычы. За адну ноч воўк абягае да 70 кілометраў. Вось чаму людзі і склалі такую прыказку: „Воўка ногі кормяць".

Зімою ваўкі збіраюцца чародамі і ідуць па глыбокім снягу адзін за другім. Асабліва злымі бываюць ваўкі, калі яны галодныя. Яны прыходзяць да чалавечага жылля і выцягваюць з хлявоў авечак, свіней, хватаюць сабак.

Усе звяры нашых лясоў абрастаюць зімою густо… і доўгай шэрсцю. У некаторых з іх зімовая шэрсць белавата-шэрага колеру, як у зай… Густая і доўгая шэрсць абараняе ад холаду, а белаватая афарбоўка ад ворагаў, бо яна зліваецца з белым снегам і звер становіцца незаметным.

---

## …БОЛЬШ ПРЫНЁС?

Пайшлі два браты на дрывотню па … дровы. Каб лягчэй было несці, дык узялі з сабой вяроўкі. … Налажыўшы на іх дровы, закінулі сабе на плечы.

У аднаго з іх была вяроўка адзін метр… даўжынёю, а ў другога дзве па палавіне метра.

Прынеслі яны ў хату дровы і заспрачаліс…я: хто прынёс больш?

Адзін кажа:

— Я, бо ў мяне дзве вязанкі.

Другі:

— Я, бо ў мяне адна ды вялікая.

А як вы думаеце: хто прынёс больш?

Калі хто захоча з вас разгадаць больш правіль…на, дык найлепей праверце гэта на нітках такой велічыні.

## ЗАГАДКІ

…у,

2. Ку-ку-ку!
Крычу ў …
На ў…
В… …енькая,

## ПАДУМАЙ

### ХТО ГЭТА?

Нос чарнявы,
Хвост бялявы,
Задзірасценькі,
Кіпцік-шчыпцік
Заграбасценкі.
Вусы русы, патарчастыя,
Тая спінка, як націнка,
Выгінастая.
Вушкі-слушкі
Не мыляюцца,
Вочкі ў ночку
Запаляюцца.



Цана 50 кап.

## „ІСКРЫ ІЛЬІЧА" дапамагаюць у вучобе

У нашай 2-А групе 34 вучні. Усе мы добра вучымся.

Спачатку года вучні Драгуноў В. і Стэркіна А. дрэнна чыталі. А гэта таму, што яны гультаявалі. Мы ўсе заявілі: Драгуноў і Стэркіна павінны чытаць добра, бо гэта кладзе пляму на нашу групу і зрывае нам спаборніцтва. Спаборнічаем мы з 2-Б групай.

Цяпер гэтыя вучні добра чытаюць.

Больш мацнейшыя вучні дапамагаюць слабейшым.

З лістапада мы ўсёю групаю выпісваем сваю часопіс „ІСКРЫ ІЛЬІЧА". На студзень таксама выпісалі 34 экземпляры.

Часопісь нам дапамагае ў вучобе. „ІСКРЫ ІЛЬІЧА" мы чытаем на ўроках. Таксама праводзім пісьмовыя работы па часопісі, бо друкуецца тут па-новаму правапісу.

Сваю часопісь мы любім і чакаем з нецярплівасцю кожны месяц.

**Мы абяцаем рэдакцыі і на... вучыцца, не рабіць ... ненняў.**

...усяе групы падпісал...

ВІЦЯ, ХАІНА БАСЯ, ВІКРЫЎ ВУС... ...РАЯ, КАВАЛЬКОЎ ШУРА ...І ТРУС... МАНЯ, ФАЙГЛІНА ЛІЗА.

г. МАГІЛЕЎ, 17 ШКОЛА.

---



...Ы ДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА".

Друкарня імя Сталіна Заказ № 2673,

Адрас рэдакцыі і ка... ...СКАЯ, ...

...а сук: Лыжы — ў шчэпкі. Нос разбіты. У крыві Жучок:
...янук. Ледзь наш Янка з той гулянкі ногі ўвалок.